Oplata pocztowa oplacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА — у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду — 1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 24 (76) | Вільня, 28-га верасьня 1935 г. | Год 3-ці.

## Цені над Літвой.

Шырокай хваляй пракаціліся па Літве сялянскія бунты. Зьяўляюцца яны рэзультатам эканамічных труднасьцяў, у якіх апынулася Літва ў выніку крызысу. Гэта дало імпульс да гутарак, што прычынай усіх гэтых гаспадарчых труднасьцяў, якія закранулі Літву, зьяўляюцца анармальныя адносіны між Літвой і Нямеччынай. Як толькі дайшлі да Коўні весткі аб сувальскіх падзеях, адразу пракацілася па ўсей Літве слова: немцы. Зрабілася яно так модным, што паўтараецца ўжо ад даўжэйшага часу пры кожнай нагодзе. І запраўды вельмі лёгка засугэраваць кожнага, што якраз немцам, і толькі немцам на руку распаўсюджваць сярод сялян думку, што бяда, якая заглянула ў іх кішані (Літва амаль выключна земляробская дзяржава), зьяўляецца нічым іншым, як вынікам літоўска-нямецкага конфлікту. Прыпамінае гэта настроі, якія панавалі пасьля леташняга вайсковага пучу. Казалася тады, што хоць розныя прычыны злажыліся на яго выбух, але бяз учасьця „нямецкай рукі“ напэўна-б ён ня зьдзейсьніўся. Пасьля пучу началося жорсткае дасьледваньне. Улады пакаралі цэлы рад афіцэроў, але плёткі аб нямецкіх грошах і ўчасьці немцаў у прыгатаўленьнях пучу ніколі афіцыяльна ня былі сьцьверджаны.

Пагледзім, чым скончыцца сьледства ў справе апошніх разрухаў. Добра асьведамлены Т. Катэльбах, корэспондэнт „Газэты Польскай“, у сваім артыкуле кажа, што быццам літоўскія ўлады, ужываючы энэргічных сродкаў, дайшлі ўжо па нітцы да клубка. Хто ведае, можа ўсе дапушчэньні будуць выглядаць іначай, больш цікава і можа раптоўна акажацца, што апрача (а можа замест?) „пастароннага элемэнту ў разрухах, які мае знак „made in Germany“, браў учасьце яшчэ нейкі іншы? Бо-ж афіцыяльны камунікат, выданы пасьля сялянскіх падзеяў, гаворачы аб гэтых элемэнтах ужываў множны лік. Гэты множны лік мог хіба адносіцца толькі да Нямеччыны і Саветаў; а можна і да „варожай“ Польшчы?

Пакуль што, шукаючы падстрэльшчыкаў паза межамі, літоўская апінія наагул кажа толькі аб немцах.

— · —

У атмосфэры доўгатрывалага напружаньня літоўска-нямецкіх адносінаў — кажа далей гр. Катэльбах — настрой гэты зусім зразумелы. Тым больш, што і рэальная, гаспадарчая стаўка на Нямеччыну, каторая, у прыпадку далёка ідучых літоўскіх уступкаў у Клайпэдзе, магла-б асаладзіць грамадзянству гэты пройгрыш, вельмі слабая. Дайшлі да гэтага перакананьня, аналізуючы цьверджаньне, што нармалізацыя гаспадарчых адносінаў між Нямеччынай і Літвой паправіла-б цяжкае палажэньне літоўскага земляроба. Лічбы выказалі, што надзеі гэтыя вельмі сумныя і могуць не прынясьці чаканых карысьцяў. У 1930 годзе, ўсяго 5 гадоў таму назад, літоўскі вываз у Нямеччыну выносіў 199,9 мільёнаў літаў, гэта знача 59,9 працэнтаў усяго літоўскага экспорту, а ў 1932 годзе абніжыўся ён ужо да сумы 74 мільёнаў (39,1 прац.). А тымчасам 1932 год, год крытычны ў нямецка-літоўскім гандлю не адзначаўся-ж літоўска-нямецкімі непаразуменьнямі. Тады яшчэ ніхто і ня думаў аб Клайпэдзкім конфлікце і не прадчуваў, што амаль усем гутнае нямецкае дырэкторыюм у Клайпэдзе, з Шрайбэрам на чале, змушана будзе ўступіць месца Навакасу.

Літоўская апінія можа першы раз так выразна ўявіла сабе, што з надзеямі на нямецкі рынак, які калісь спажываў 60% усяго літоўскага экспорту, прыдзецца разьвітацца. Пры сяньняшніх варунках можна разьлічаць, што вываз сельска гаспадарчых прадуктаў у Нямеччыну можа асягнуць найбольш 30 мільёнаў літаў у год.

— · —

І вось, калі сяньня гаспадарчая атракцыя Нямеччыны страціла сваю сілу, зьяўляецца яна (Нямеччына) для Літвы толькі як дзяржава, якая імкнецца адарваць „клайпэдзкі край“, і „падзяліць Літву“, ды якая правакуе быццам нават камуністычныя разрухі ў Літве, каб у адпаведным моманце мець асновы ўсправядлівіць перад Эўропай сваю збройную інтэрвэнцыю на літоўскай тэрыторыі.

Паводле слоў таго-ж Катэльбаха, сяньня кожны сярэдні літоўскі інтэлігент уяўляе сабе гэтак Нямеччыну. З выняткова́й трывогай сочыць ён за прабегам італа-абісінскага конфлікту, баючыся, што пачатак далёкай вайны можа мець і для будучыні Літвы рашучае значэньне. Тут-жа, з за мяжы даходзіць да яго бязупынна рэха пагранічных манэўраў нямецкіх войскаў і мітынгаў, на каторых выцягнутыя рукі, зварочваюцца проці Літвы. Уражаньне гэтага рэха настолькі моцнае што ня можа яго аслабіць выняткова размах збраеньня, якім здаецца да поўнага часу цалком заняты літоўскі генэральны штаб.

Кожны літвін жыве сяньня ў перакананьні, што над яго бацькаўшчынай сабраліся хмары, выглядаючыя вельмі грозна. І кожны літвін баіцца, што калі пасьля 29 верасьня, знача пасьля выбараў у Клайпэдзе, хмары гэныя не разойдуцца, то могуць яны хутка разладавацца сільнымі дажджамі, якія падмыюць маладыя фундамэнты адроджанай дзяржавы.

*М.*

## Камітэт 5-цёх ужо скончыў сваю ролю.

Апошнімі днямі Камітэт 5 цёх апрацаваў канчальна прапазыку згоднага вырашэньня італа-абісінскага конфлікту. Прапазыка гэтая была прадстаўлена Італіі і Абісініі. У той час, як Абісінія згадзілася на вырашэньне конфлікту ў сэнсе прапазыкі К-ту 5-цёх, Італія рашуча яе адкінула. У выніку гэтага адбылося паседжаньне Камітэту 5-цёх, на якім сьцьверджана, што ўсе яго высілкі, скіраваныя да вырашэньня італа-абісінскага конфлікту ня прынясьлі пажаданага рэзультату. У сувязі з гэтым пастаноўлена даць справаздачу Радзе Лігі Нацый аб праведзеных працах і на гэтым дзейнасьць К-му скончыць.

Разьвязка Камітэту 5-цёх далёка яшчэ не азначае, што спробы мірнага вырашэньня конфлікту ўжо вычарпаны. Хаця Муссоліні і адкінуў праект К-му 5-цёх, але затое апублікаваў са свайго боку італьянскія трэбаваньні, якія могуць паслужыць матэр'ялам для далейшых працаў над мірным вырашэньнем конфлікту ўжо ў Лізе Нацый.

Трэбаваньні гэтыя наступныя:

1) Стварэньне італьянскага калідору на абшары Абісініі, на захадзе ад Адзіс-Абэбы. Калідор гэты павінен злучаць абедзьве італьянскія калёніі, гэта знача іншымі словамі, акружыць Абісінію з усіх бакоў.

2) Пакінуць Абісініі доступ да мора, стварыўшы калідор у італьянскай Эрытрэі або Сомалі. Абісініі будзе прызнана права да карыстаньня з аднаго з італьянскіх портаў на абшары аднэй з італьянскіх калёніяў.

3) Муссоліні ўважае за немагчымае прыняцьце прапазыкі Камітэту пяцёх дзеля таго, што яна зусім не закранула пытаньня аб абісінскай арміі; Муссоліні-ж станоўча жадае разбраеньня большай часьці арміі нэгуса і перадачы рэшты пад нагляд італьянскаму камандаваньню.

У палітычных колах у Жэнэве абшырна комэнтуюцца ўмовы Муссоліні. Шмат хто ўважае іх, за пачатак зьмены дасюлешняга становішча Італіі. Падчырківаецца, што Муссоліні належна не ацаніў маральнага значэньня Лігі Нацый і цяпер імкнецца паправіць сваю памылку. Ангельскі ўрад, відаць, прыйме на сябе абавязак знайсьці форму, якая пазволіла-б Муссоліні, без нарушэньня прэстыжу Італіі, весьці далей дыплёматычныя перагаворы.

Адным словам Жэнэва ізноў дыхае оптымізмам, але ці будзе дыхаць доўга, ня ведама, бо-ж гэта ўжо ня першы раз.

*Мір.*

## Польская прэса аб беларускай справе.

Нядаўна пачала ў Вільні выходзіць польская газета Poprostu“. Газэта гэтая шмат мейсца пасьвячае й беларускаму пытаньню. Так, у № 3 быў зьмешчаны артыкул, у якім парушаліся балячкі беларускага школьніцтва. У апошнім нумары (№ 4, з 20-га верасьня) рэдакцыя „Poprostu“ ў адказе аднэй чытачцы шырака трактуе беларускую справу. Прыводзячы гістарычныя дадзеныя, абасноўваючыя самастойнасьць і багацьце беларускай культуры, сягаючы ў гісторыю Беларусі, рэдакцыя робіць вельмі слушныя ўвагі, на якія не здабылася яшчэ ніводная польская газэта. „Poprostu“ цытуе, між іншым, прамову цяперашняга міністра ўнутраных справаў М. Косьцялкоўскага, (тады пасла ў Сойм), якую мы цалком падаём у перакладзе:

„Мушу сьцьвердзіць, што ўсходнія землі ў працягу 8 гадоў польскага панаваньня зносілі неаднакроць многа крыўды. Крыўда гэтая палягала перадусім на тым, што Крэсаў не падымалі культурна й эканамічна, не давалі ім таго, што трэба было даць, па столькігадовай няволі і па ўсіх тых жудасьцях, якія яны перажывалі.

Крыўда людзкая на крэсах была й таму, што кіравала там адміністрацыя найгоршая з усіх польскіх земляў, рэкрутаваная з усіх тых урадоўцаў, якія тут у цэнтральнай Польшчы аказаліся неадпаведнымі і каторых туды высылалі за тыя ці іншыя праступкі. Тыя, хто паходзіць з цэнтральнай, заходняй і паўдзённай Польшчы, а ня былі на ўсходніх землях, ня могуць мець нават выабражэньня аб гаспадарчай і культурнай галіце, у якой насельніцтва на тых абшарах знаходзіцца.

Ровень культуры ёсьць такі, якога Панове нідзе у цэлай Польшчы ня знойдзеце... Неатрымліваньне крэдыту вынікае нятолькі ад таго, што гэты крэдыт наагул мала выдаецца дробным земляробам, што на гэтую мэту прызначаны вельмі малыя сумы, але і ад таго, што вясковае насельніцтва ня ўмее дабіцца да гэтага крэдыту і выпаўніць усе розныя фармальнасьці, якія з здабыцьцём крэдыту зьвязаны... у справе арганізаваньня гэтага насельніцтва ў нейкія культурныя і гаспадарчыя арганізацыі таксама амаль нічога ня зроблена. Сьцьвярджаю, што калі будзем далей стасаваць гэткую політыку ў адносінах да ўсходніх земляў, то давядзем да таго, што ня толькі Беларусы будуць так востра выступаць, як выступілі супроць польскай дзяржаўнасьці і панаваньню, але на жаль і некаторыя Палякі згубяць веру, што ў Польшчы існуе справядлівасьць“.

Гэтую прамову з 1927 г. можна было-б паўтарыць амаль бяз зьменаў і цяпер. Тое палажэньне, у якім знаходзіўся беларускі селянін у 1927, ня толькі не зьмянілася у сучаснасьці, але значна пагоршылася.

Дзеля гэтага паводле „Poprostu“ пазнаньне сытуацыі Беларусаў і ўспамаганьне іх высілкаў дзеля палепшаньня быту й разбудовы нацыянальнае культуры ёсьць аснаўным абавязкам усяго польскага сьвету працы. Бо-ж народ, які іншым братнім народам, жывучым пад супольным дзяржаўным дахам, ня дасьць усіх правоў і свабод, неабходных для поўнага эканамічнага і культурна-нацыянальнага разьвіцьця, народ такі сам ня ёсьць годны быць вольным грамадзянінам міжнароднага хаўруса. І таму беларуская справа ня ёсьць справай рэгіянальнай, але справай агульна-польскай. Нажаль, жыцьёвы досьлед паказывае, што гэтая справа трактуецца і надалей падобным чынам.

Гэтыя словы перадавога польскага грамадзтва (выдаўцом і супрацоўнікам „Poprostu“ зьяўляецца Г. Дэмбіньскі) ёсьць доказам, што пералом у трактаваньні беларускае справы ў польскім грамадзянстве адбыўся. Знайшліся й палякі, якія папросту, адкрыта і чэсна стаўляюць справу, а не апранаюць яе ў мутную фразэолёгію, як гэта робяць розныя дэмократычныя“ польскія газэты.

*Ш.*

# „Бацькі-дэзэртыры“ ў СССР.

Апісваючы савецкую абычайнасьць у „Gazecie Polskiej“ п. Отмар цікава асьвятляе гэтую тэму:

— „На ўступе — малая, але неабходная ўвага: вялізная большасьць чалавечых стадаў жыве паміж сабою ў Расеі як найнармальней, г. знач. так, як да рэвалюцыі і (часьцю) так, як і ў рэшце сьвету. Я ўжыў азначэньня „часьцю“, таму што ані сямейнае жыцьцё, ані гэтак званая „сэксуальная моральнасьць“ у Расеі ніколі не стаяла вельмі высока. Гэта ня значыць, каб расейскі народ грашыў нейкаю спэцыяльнаю разьвязанасьцю абычаяў. Некаторы — перапрашаю чытача за гэтае можа крыху драстычнае, але зусім точнае азначэньне — „палавы бязлад“ істнаваў у гэтым краі ад яго раньняе гісторыі і, агулам бяручы, пратрываў дасюль. Рэвалюцыя няшмат у гэтай галіне жыцьця зьмяніла, хіба што істнаваўшым абычаям прыдала зараз-жа, пасьля бальшавіцкай перамогі, законную форму — ў постаці колёсальнага палегчаньня разводаў, права перарываньня цяжарнасьці і інш.

Па-за гэтым—ніякай „соцыялізацыі жанчын“ ніколі ў пасьлярэвалюцыйнай Расеі ня было — савецкі лад проста такі нармаваў тыя, што істнуюць, абычаі ў юрыдычным сэнсе.

Абычаі гэтыя, як я ўжо ўспамінаў, ані трошкі не вынікаюць з нейкае асаблівага роду моральнае папсаванасьці, яны проста сьведчаць аб *прымітывізме* расейскага чалавека, наагул няздольнага панаваць над прыроднымі інстынктамі... расеец сягоньня яшчэ *любіць* або *ненавідзіць* у тых выпадках, у якіх чалавек Захаду самае большае — *адчувае сымпатыю або антыпатыю*.

Ясна, што заўсёды істнавалі ў Расеі людзі, болей, у сэнсе абычайнасьці, зблізаныя да Захаду. Дык рэвалюцыя і не зрабіла на іх ніякага ўплыву: калі здолелі перабрысьці цераз гады „ваеннага камунізму“ — жылі між сабою як-найчэсьней, любілі свае дзеці, выхоўвалі іх як-найруплівей, турбуючыся перш за ўсё аб цяжкіх варунках штодзеннага быту, а таксама аб тагочаснай школьнай сыстэме, быўшай аж да 1933 году пад уплывам дурных „левых“ тэорыяў, ад якіх цяпер рэжым адыходзіць хіба што з яшчэ большаю гарачкаю, як тая, з якою яе ў сваім часе заводзіў.

Праўда, рэвалюцыя ўвяла ў жаніміства некаторую досыць прынцыповую зьмену: іменна значна абмежавала матар'яльныя матывы, дзеля якіх большасьць параў на сьвеце заўсёды жанілася. Праўда — савецкі лад выключае магчымасьць ажаніцца з пасажнаю адзіначкаю. Але ані не выключае магчымасьці „ўжаніць сябе“ ў кватэру з двух пакояў. Часта ў перапоўненых людзьмі савецкіх гарадох жаніцьба ёсьць проста адзіным спосабам здабыць страху над галавою, а гэта ў тамашніх варунках напэўна значыць больш, як у іншым якім месцы — стотысячны пасаг...

Жанчына можа зараз-жа выйсьці замуж (асабліва з мамэнту разрозьненьня платаў) за лепш ці горш платнага саноўніка, або спэцыялістага. Нават не адна „камсамолка“ лічыць за лепшае стаць інжынерыхай — ведама, што з мамэнту, калі інтэлігента пакінулі лічыць „клясавым ворагам“, — чымся жонкаю звычайнага работніка.

Па-за гэтым сярод рэшткаў дробнамяшчанства, а таксама сярод значнае большасьці сялянства, маладзіца атрымлівае г. зв. выправу, а малады — фармальны *пасаг*, каторы ў мамэнт, калі я пакідаў Маскву, абяртаўся каля роўнавартасьці 200 рублёў на золата“...

— Я думаю, — далей піша п. Отмар, — што процант жаніміствыаў „з развагі“ ці „з каханьня“ ёсьць у Саветах наагул зблізаным да аналёгічнага проценту ў нашым сьвеце. Толькі што „развага“ менш тут дае цыфрова, а жаніміствы „з каханьня“ зьяўляюцца наагул куды менш нешчасьлівымі, з прычыны карэктуры „натуральнага падбору“ ў форме разводу.

Мужы і жанкі (абодвух вышэй успомненых тыпаў здраджваюцца ўзаемна так сама, як і да рэвалюцыі — гэта значыць вельмі лёгка. Лягчэй, як у рэшце сьвету, бо опінія суседзяў — якія робяць якраз тое самае—была дасюль у гэтым сэнсе нячувана лагоднаю.

Пакуль шматмільённыя масы адбывалі цяжкі форсіраваны марш „абедзьвюх пяцілетак — пытаньне аб сэксуальнай моральнасьці ляжала адлогам. Людзі, нават зусім беспартыйныя, ня мелі тады часу на асабістае жыцьцё, а праца цераз сілу прытупляла прыродную расейцам юрлівасьць.

Калі тады былі *безпризорныя дети*, дык займалася імі дзяржава, ладзячы час ад часу „дэкады ліквідацыі дзяцей, пазбаўленых апекі“. І далей лічылі іх за „спадак па панурым царызме і хатняй вайне“, хоць у 1928 - 1932 гадох гэта ўжо былі ахвяры барбарскага форсаваньня калектывізацыі ў яе пачатковым пэрыядзе, або проста сіроты па (болей бадзёрых) „невядомых жаўнярох пяцілеткі“. Калі ідзе аб „панурым царызм“, дык трэба яго, ня гледзячы на абсолютны недахоп сымпатыі, крыху зрэабілітаваць: царская Расея ня ведала „безпризорных“, апрача нармальнага проценту *праўдзівых* сіротаў, якімі апекаваліся прытулкі, або г. зв. „ добрыя людзі“.

Офіцыяльныя пагляды раптоўна зьмяніліся зараз-жа пасьля скасаваньня хлебных картачак. Савецкая прэса, а таксама і ўлада, занялася прапагандаю „чысьціні сямейнага жыцьця“ ў зусім нябывалых разьмерах: галоўныя газэты, як „Правда“, „Известия“ і „Комсомольская Правда“ пачалі вострую кампанію проці перарываньня цяжарнасьці, называючы гэта „калечаньнем жанчын“, якое „можна было апраўдаць у цяжкіх варунках, але цяпер у момант нябывалага падняцьця жыцьцёвага мінімуму працоўных масаў (?!) — гэта рашуча злаўжываецца“.

Па нітцы да клубка — сконстатована што маладыя расейскія жанчыны вельмі ахвотна спаўнялі-б „найвышэйшую грамадзкую функцыю, якою зьяўляецца ў соцыялістычным грамадзянстве мацярынства“, але гэтаму стаіць на перашкодзе агульна прыняты грамадзкі біч — у форме масавага кіданьня на зьдзек лёсу сотняў тысяч жанчын, (як толькі яны становяцца або толькі маюцца стаць маткамі) - популярным тыпам „бацькі—дэзэртыра“.

Проці гэтых „бацькоў дэзэртыраў“ скіраваны сягоньня гураганны агонь прэсавых атакаў і загадаў адміністрацыйна судовага характару За ўхіл ад платы алімэнтаў пагражае сягоньня,—апрача цывільных пасьледзтваў,—кара 2-х гадоў вастрогу. А гэткіх суб'ектаў — паводле вельмі прыблізных аблічэньняў — ёсьць каля 200 тысяч. Гэта толькі тыя, на якіх пакінутыя маткі атрымалі ўжо прысуды алімэнтаў. А колькі ёсьць гэткіх, аб якіх „пролетарскі суд“ прысуду свайго яшчэ ня вынес? Ніякая статыстыка не схапіла яшчэ іх ліку, які можна ўзяць „на вока“ гэтак... мільёны за два.

З выпадкаў конкрэтных — злавілі на „бацькоўскім дэзэртырстве шмат, як сталічных так і провінцыяльных, камуністых і камсамольцаў. Паміж іншымі засуджаны на 8 гадоў вастрогу, за тое, што кінуў сям'ю бяз догляду, вядомы фільмовы рэжысэр Шор, дзіця якога памёрла з галіты. Шпальты савецкіх газэт перапоўнены весткамі аб дзецях, пакінутых нават абоімі бацькамі, аб дзецях, адсыланых разводнікам да экс-жонкі і назад, аб дзецях, змушаных бацькамі жабраваць або красьці і г. д.

Словам — паварот да нейкага „чырвонага Домастрою“ *)!

Старыя партыйныя выдры хваляцца на тэму: „Як я выхоўваю свайго сына?“ „Грамадзкія актывістыя“, што ня думаюць пра сям'ю, асуджваюцца з гэткаю самаю гарачкаю, з якою ўсяго два гады таму асуджвалі чалавека, які, з важных сямейных прычынаў, прапусьціў-бы які-нібудзь сход.

Прэса ўрачыста запэўняе, што соцыялістычная дзяржава ахвотна паможа бацьком ў выхоўваньні дзяцей, але і ня думае ані—„звальняць іх ад гэтага абавязку“, а ўсякія ўвагі, што сямейныя клопаты мусяць адрываць грамадзяніна ад грамадзкай працы, наперад асуджвае, як „дробнабуржуазныя левыя ўхілы“ (?!), цьвердзячы, што «лёгкадумнае і нікчэмнае трактаваньне жанчыны і сям'і падходзіць толькі да буржуазных нягоднікаў“.

Апісаны вышэй фактычны стан рэчаў есьць — паводле савецкае прэсы — ведама што на цэлае неба вышэйшым за „буржуазную агіду“, што пануе па-за межамі СССР. Савецкі грамадзянін (калі ён верыць сваёй прэсе, у чым моцна сумляваюся) напэўна думае, што на Захадзе жаніцьба без інтарэсу не даходзіць да рэзультату.

На закончаньне — выпадае спытацца, якая-ж ёсьць прычына гэтага павароту да „чырвонага Домастрою?“

Ёсьць іх пара: перш за ўсё звольненага з харчовых „хвастоў“ чалавека трэба абцяжарыць сямейнымі клопатамі, каб ня меў ён часу затрымацца над тымі, што абкружаюць яго, зьявішчамі і ня ўпасьць праз гэта ні ў які *уклон*.

Апрача гэтага—пасьля столькі гадовае трэніроўкі адзінка можа стаць індыфэрэнтнай да тэрору. Але, калі любіць сям'ю, дык улада мае дадатковы спосаб прэсіі, творачы з сям'і заложнікаў лёяльнасьці грамадзяніна, як гэта прадбачыць дэкрэт „аб здрадзе бацькаўшчыны“, які карае сем'і за віны іх галоваў. Ідзе таксама бязумоўна і аб мэты популяцыйныя (прырост жыхароў — Рэд.).

Дык нарэшце — хто ведае — можа савецкі рэжым зразумеў, што нармальнае дзяржаўнае жыцьцё нельга і ўявіць сабе без істнаваньня трывалае сям'і ў значэньні „асноўнае клеткі грамадзянства“, як яе любяць называць... каўтуны ўсіх краёў“...

*) Кніга нейкага папа Сыльвэстра з XVII веку, у якой сабраны праваслаўныя рэцэпты нарміроўкі сямейнага жыцьця.

# Царскі памятнік.

*(З мінуўшчыны аднаго беларускага кутка).*

(Глядзі № 23 „Роднага Краю“).

— Нам гэта цяжкая справа, ваша благародзіе: 1.200 рублёў з воласьці! А бяды ў кожнай хаце, як тых блох, разьвялося... Цяжкая справа — памятнік... Дасюль без яго абыходзіліся...

— Дык ты што, стары?—закіпеў Акінфаў, — ты мусі каталік, бунтаваць хочаш проці прынцыпу монархічнага?...

— Дык дзе мне ўжо? -апраўдваўся стары Гіль, — дасюль я не бунтаваў, дык і цяпер ня думаю. Я ня проці *прынца* і ня проці цара... Цяжка нам толькі можа быць з памятнікам... абмеркаваць трэба...

— Праўду Гіль кажа!..

— Абмеркаваць!...

— На сходзе абгаварыць! — сыпаліся галасы.

— Ціха!—яшчэ раз закрычаў Акінфаў. — *Дуракі* вы ўсе! Што тут меркаваць? Бяз вас абмеркавалі, аблічылі ўсё!... Карп Гіль, дык ты значыцца проці царскага памятніка?

— Не, не! ваша благородзіе, — адказаў хітры дзед. — Я што? я так, як усе, як сход!..

— Э, тут з вамі няхутка да толку дайдзеш! — махнуў рукою Акінфаў. — Пачнем папарадку: Старшыня Іван Лус! ты як? за памятнік, ці проці памятніка?

— Я... што-ж? — ціхенька, дрыжачым голасам, адказаў старшыня, — Як ваша воля будзе? Проці начальства я не магу пайсьці, ваша благародзіе...

Ты, Ігнат Кірша, стараста з Абадранкі, як? далей пачаў пытацца — Акінфаў, гледзячы ў сьпісак.

Але не пасьпеў адказаць абадранскі стараста, як слова ўзяў ізноў стары Гіль.

— Ваша благародзіе? — спытаўся ён голасна, — сход тут, ці ня сход?

— Сход! А табе што?—востра адказаў Акінфаў.

— Калі сход, дык справа гэтак не рашаецца...

— Э, ты вучыць мяне будзеш? Штрафую цябе на тры рублі!—загарачыўся начальнік.

— Ваша благародзіе,—спакойна і лагодна неяк заявіў Карпей Гіль,—я штрафу не баюся, не пяршыня мне гэта. А вось майце ласку выслухаць, што я скажу, калі ось-дзе наш сход, і ня гневайцеся, ваша благародзіе, на мой сівы розум. Восемдзесят два гады я на сьвеце пражыў, featurezнае начальства бачыў, самому графу Віттэ хлеб-соль падносіў, як ён чугунку каля нас аглядаць прыяжджаў. А вось гэткіх валасных сходаў ня помню, як жыву, ваша благародзіе!... Кхукху!—кашлянуў стары Карпей.

— Ну, ну! *говори старик*, паслухаем, — раптам раздабрыўся Акінфаў.

— Даруйце старому языку, ваша благародзіе, — казаў Гіль далей, — кажаце, вучыць вас хачу. Ласку маеце памыляцца крыху. Вы і без мяне высока вучаны. А штрафам за шчырае слова на сходзе нас не палохайце... Даволі даўно было гэтак сама... Міравы пасрэднік граф Лідке пачаў нас па адным на сходзе выклікаць ды пытацца, хто як думае? Справа ня гэткая важная, як царскі памятнік, была. Сход разыйшоўся. Паштрафаваў усіх пасрэднік. А мы — бах жалабу самому губэрнатару! Графа Лідке забралі ад нас, а штрафы даравалі. З даўных давён, ваша благародзіе, у нас так вядзецца, што валасны сход — нялёгкая справа: пагудзём, памяркуем дый рэкнем у адно слова. Як пастановім, так і выходзіць... Але-ж тут справа нязвычайная! Царскае пэрсоны датычыцы! Ня штука памятнік паставіць. І грошы можна на яго сабраць. Але-ж, апрача гэтага, колькі клопату нам будзе, калі памятнік царскі пры воласьці паставім...

— Які-ж яшчэ клопат?—весела з усьмешкай перабіў Акінфаў, сярод поўнай цішыні многалюднага сходу.

— А такі клопат, ваша благародзіе, што мала будзе толькі паставіць памятнік. Трэ' будзе яго палюдзку абгарадзіць, каб дзеці нашыя, летам гуляючы ў пяску, не запэцкалі яго. А можа і зьверху чым накрыць прыдзецца, бо нядобра неяк, каб царскую пэрсону дождждык паліваў. Дый гэта яшчэ не бяда. А вось штрафаваць вы нас, ваша благародзіе, за памятнік гэты вельмі часта будзеце. Ня кожны-ж наш мужык у маскалёх... выбачайце, у салдатах служыў: прайдзе, разявяка, ня скіне шапкі перад памятнікам, і мае ўжо сабе на гарэхі. Перад вамі калі шапкі хто ня скіне — на паўрубля штрафуеце, а за царскую пэрсону, дык і кара яшчэ большая, ваша благародзіе...

— Ну, нічога! Прывыкнуць неяк усе,—лагодна перабіў Акінфаў, —дарэчы, дзеду, гаворыш. Дарую табе штраф.

— Пакорна дзякую, ваша благародзіе, — весела падхапіў стары Гіль, — а калі цярплівасьць маеце, дык яшчэ мяне, старога, выслухайце. Пры сьв. памяці цару Аляксандру Трэцім гэтак сама вось, як цяпер, партрэты царскія тут у канцэлярыі віселі. А дзьве дурныя ба-

# Гаспадарчы аддзел.

## Зімоўка пчолаў.

Самае цяжкае заданьне пчалавода гэта зімоўка пчолаў. Ад яе залежыць добры пасьпех пасекі ўлетку. Адныя пчаляры пакідаюць на зіму вульлі з пчоламі ў тым самым месцы, дзе яны стаялі ўлетку, другія-ж — пераносяць у т. зв. амшаньнікі, г. зн. асобыя будынкі. Калі пакідаць пчолаў зімаваць, прыкладам, у садзе, дык трэба мець добра агледжаныя вульлі, у якіх заўсёды была-б адпаведная тэмпэратура і даплыў сьвежага паветру. Гэта даволі цяжкая справа і таму больш пэўным спосабам зімоўкі пчолаў зьяўляецца зімоўка ў амшаньніках або ў зачыненых памешканьнях.

У адным і другім прыпадку трэба захаваць наступныя варункі:

1) *Добрая ежа.* Практыка сьцвердзіла, што чысты мёд зьяўляецца найлепшай ежай для пчолаў. Трэба зважаць, каб мёд быў добры і вашчына была запячатана, бо кіслы і неагул дрэнны мёд вельмі шкодзіць пчолам.

2) *Захаваньне адпаведнай тэмпэратуры.* Цяплыня павінна быць ад 10° да 12° Рэам., бо толькі пры такой тэмпературы мёд застаецца ў плыўкім стане. Пры ніжэйшай цяплыне мёд гусьцее і пчолы ня могуць яго спажываць.

3) *Адпаведная колькасьць вільгаці ў вульлі.* Паветра як у вульлі, так і звонку мае ўсабе пару. Вытварае пару і цёплае дыханьне пчолаў. Калі-ж халоднае паветра спатыкаецца з цёплым у вульлі, дык нявідочная пара ператвараецца ў расу. Кроплі гэтай расы злучаюцца і паўстае вада. Умераная колькасьць расы ня шкодзіць, нават зьяўляецца ўзімку неабходнай, бо заспакайвае смагу пчолаў. Але залішняя колькасьць расы вельмі некарысная, бо пры ёй сьценкі вульля і вашчыны пакрываюцца вадою. У такім прыпадку пчолы робяцца неспакойнымі, стараюцца высмактаць кроплі вады, якія знаходзяцца на вашчыне, ад чаго часта хварэюць і нават гінуць. Апрача таго ад залішняй вільгаці вашчына плясьнее і робіцца нягоднай да ўжытку. І вось тут якраз таксама адыгрывае вялікую ролю захаваньне раўнамернай і адпаведнай тэмпэратуры.

4) *Супакой.* Месца для зімоўкі пчолаў трэба выбіраць спакойнае. Ад рознага роду стуку пчолы пачынаюць трывожыцца, нападаюць на мёд і спажываюць яго ў непамернай колькасьці. У гэтым прыпадку запас мёду можа не хапіць на цэлую зіму і пчолы гінуць тады ад голаду.

Таму ня можна выбіраць месца на зімоўку пчолаў, прыкладам блізка дарогі або хлявоў, у якіх знаходзіцца жывёла і т. п. Цішыня зьяўляецца вельмі важным варункам для добрай зімоўкі пчолаў.

*А. А.*

## Забарона вывазу аружжа з Злучаных Штатаў.

Камітэт кантролю над вытворчасьцяй і гандлям аружжам пад старшынствам дзяржаўнага сакрэтара Гульля зрабіў сьпісак ваенных матэр'ялаў, якіх забаронена вывазіць з Злучаных Штатаў на аснове закона аб нэйтралітэце. Гэты сьпісак, непадлягаючы публікацыі, зацьверджаны камітэтам і прадстаўлены прэзыдэнту Рузвэльту.

## Трывога ў Адзіс-Абэбе.

Паводле чутак, на паграніччу правінцы Огадзен і італьянскім Сомалі паўстаў новы інцыдэнт. Група мясцовых салдатаў пранікла з Сомалі на тэрыторыю Абісініі. Калі абісінскія стражнікі запрапанавалі сомалійцам аддаць аружжа, апошнія адказалі кулямётным агнём.

Такі-ж пагранічны інцыдэнт, як падае „Таймс", прадбачыцца ў бліжэйшых днях і на абісіна эрытрэйскай граніцы, што вельмі ўстрывожыла абісінскія колы. Яны ўважаюць, што здарэньні гэтыя пазволяць італьянскаму ўраду выступіць у Жэнэве з жалабай на занадта павольнае дзеяньне Лігі Нацый і заняць часьць абісінскай тэрыторыі без абвешчаньня вайны. Дзеля гэтага абісінскія колы высоўваюць праект стварэньня асобай міжнароднай камісіі для нагляду за дзеяльнасьцяй італьянскіх войскаў каля абісіна-італьянскай граніцы.

У колах Лігі Нацый праект гэты ўважаюць нерэальным, бо-ж даўжыня італа-абісінскай граніцы выносіць ня сотні, а тысячы кілямэтраў.

## Горад аўтаматаў.

Калі ў Копэнгагэне (Данія) да гаспадыні, хоць-бы ў 10 гадзін увечары прыдуць неспадзявана госьці, дык яна заўсёды зможа пачаставаць іх, калі-б нават аказалася, што ўсе харчы ў яе выйшлі. Варта толькі выйсьці на вуліцу. Крамы ў Копэнгагэне зачыняюцца а 7 гадзіне ўвечары, але няма гэткае рэчы, якой нельга было-б купіць у аўтамаце.

Па ўсім горадзе парасстаўляны аўтаматы, якія прадаюць усё, што хочаце: яйкі, масла, гародніну, сыр, кансэрвы, піражкі, каўбасы, розныя закускі і напіўкі, папіросы.

Вы хочаце праз некалькі сэкундаў мець сваю фатаграфію? Кіньце ў аўтамат адпаведную колькасьць манэтаў і аппарат вас фатаграфуе і выкідае картачку. Едучы вуліцаю на вэлісапэдзе чалавек заўважыў, што электрычная батарэя яго лятарні вычарпалася. Яму паможа аўтамат, каторы прадае новыя батарэі. Вы забыліся ўзяць з сабою насавую хустачку? Ёсьць аўтаматы і з хустачкамі. Гэткай сыстэмы аўтаматаў, як у Копэнгагэне, ня мае больш ніводзін эўрапэйскі народ.

## Варта ўвясьці і нам...

Эканамічны крызыс і страшэнная галіта, якія пануюць усяўладна на беларускай вёсцы, не даюць магчымасьці нашаму сялянству падняць тэхнічна сельскую гаспадарку. Ня кажучы аб машынах, трактарах і т. п., жалезную барану ня кожнаму селяніну можна купіць. Да нас даходзяць весткі, якія сведчаць аб страшэнным зьбядненьні сялян.

Выдаткі на рэчы першай неабходнасьці зьмяншаюцца да мінімума. Часта ў сялянскіх хатах ня паляць лямпы, бо няма грошаў на газу.

Нам прыйшлося чуць аб такім выпадку:

Вучань пачатковае школы насіў алавік у бутэльцы на шнурку, бо бацька прыказаў алавіка ня згубіць і не паламаць. Як-жа інакш прадстаўляецца жыцьцё ў нямецкік вёскак, якія праездам я зьведаў. Праўда, нямецкія сяляне маюць непараўнальна больш зямлі, чым нашыя. Таму яны могуц купляць машыны і т. п. Аднак, я пераканаўся што і земляробская культура шмат значыць.

Дзьве рэчы, якія я заўважыў у нямецкіх сялян, маглі-б і нашыя сяляне ўвясьці. Нямецкі селянін і ўзімку, і ўлетку ходзіць пры рабоце ў „трэпах" (шлепакі). Драўляная падошва абітая скурай толькі для ступні, пята зусім адкрытая. Шлепакі можна зрабіць нават самому ўзімку. Апрача таго яны прынясуць нам і здароў'е ў хату. Скідаючы у сенях, мы будем заўсёды мець чыстую падлогу. У вязаных нашымі кабетамі шкарпэтках будзе цёпла і лёгка. Зэканомім на вобуві.

Нямецкія сяляне ўсе косяць збожжа. Нідзе амаль няма сярпоў. Колькі поту і сьлёз вылівае нашая сялянка, працуючы ад раньня да ночы з сярпом. Касой-жа можна і хутка і шмат убраць збожжа. І ў нас ужо ўводзяць памалу косы, але яшчэ ўсе амаль з пагардай глядзяць на яе і трымаюцца ўпорна сярпа. Зусім няслушна.

Трэба толькі купляць даўгія косы. Пасьля ўборкі немцы ужываюць вялікія граблі, якія адразу чысьцяць цэлы загон у шыры. Працягнуўшы раз гэтымі граблямі, на полі нічога не застаецца.

Можна і ў нас увясьці...

*Ма.*

## Павышэньне цэнаў на жыта.

Апошнімі днямі на варшаўскім рынку сільна павысілася цана на жыта. За самы лепшы сорт плацяць 13.50 да 14 зл. за 100 кілёгр.

*МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.*

## Пра „Тры бляшкі", „Ланцуг шчасьця" і іншыя штучкі

Розных штукароў вытварае гарадзкое жыцьцё.

Гарачы тэмп жыцьця ў вялікім горадзе зьбівае пену, як на дне, так і на паверхні гэтага жыцьця.

Пена круціцца і стараецца жыць бяз ніякай вытворчай працы—жыць ашуканствам.

Год назад, вакол Замковай гары ў Вільні, на крывой вулічцы Сыракомлі, можна было няраз, сярод белага дня, бачыць гэткія вось штучкі:

Складаны лёгкі столік, за ім стаіць бойкая баба або яшчэ байчэйшы фраер. На століку з тузін закручаных невядома ўжо й калі ў брудныя паперкі цукерак. Баба ці фраер перабірае цукеркі, кажучы:

— Пара, пара, пара... лішка.

Навокал — два ці тры жаўнеры, некалькі кухарак, рознай масьці публіка.

Усе добра бачылі, што цукерак ня тузін, а на адну больш.

Баба згарнула цукеркі ў кучу і выклікае:

— Ну, хто за пару, а хто за лішку? Стаўляйце, панове, па злотаму!

Жаўнер стаўляе 50 грошай (апошнія, бо ён ужо тут ня раз прайграў, не згадаўшы).

— Можна і 50 грошай! — падхапляе фраер:—вы за пару ці за лішку?—пытаецца ён у жаўнера.

— За лішку! —адказвае той.

Па прыкладу жаўнера, шмат хто настаўляў за... лішку.

Жаўнер пералічвае цукеркі: што за ліха?

Пара!...

Пералічваюць іншыя:

Пара!

Усе прагралі.

Бо, згартаючы ў кучу цукеркі, баба спрытна дакінула адну штуку, каб выйшла пара, затрымаўшы яшчэ адну штуку паміж пальцамі, каб зрабіць яшчэ адзін кароткі жэст, — у выпадку, калі настаўляюць залатовак усё-ж такі за пару,— і голасна запрасіць:

— Палічэце!

Калі публіка здорава праграе і больш ня ставіць, а натаўп пакрысе прыбывае вакол століка, дык нехта з нікому невядомых супольнікаў бабы або фраера раптам стаўляе 2 злотыя і... выігрывае.

Наіўных гэта заахвочвае і жулікі опэруюць сваімі цукеркамі аж пакуль не пачуюць сыгналу сваіх, вакол расстаўленых, супольнікаў, што надыходзіць паліцыянт.

Кажуць, што і дасюль „працуе" шайка гэткіх „цукернікаў" па прадмесьцях або на рынках у рыначныя дні, абіраючы прыезных сялян.

Яшчэ байчэй ідзе гульня на рынках у гэтак званыя „Тры бляшкі".

Звычайныя тры круглыя бляшкі: дзьве чыстыя, з абодвух бакоў, а на аднэй намалёвана лялька.

Нейкі малады фраер, з асіплым голасам, робіць усякія даволі простыя маніпуляцыі з гэтымі бляшкамі над столікам і парасейску запрашае:

— *Пажалуите гаспада! Ставка—два злотых!*

Кінуў бляшкі ў рад на столік. Кожнаму відаць, што бляшка з лялькаю ўпала пасярэдзіне.

Нехта з сабранай вакол століка публікі стаўляе на сярэднюю бляшку адзін злоты.

— *Что вы, шутите?*—адцінае жулік,— *я нищему больше даю!* — і вяртае залатоўку.

— *Игра два злотых!* — падбадрае ён далей,—*деньги на руку!*

Нехта палез у кішэнь вымаць два злотых. За ім другі...

А тымчасам жулік перасунуў сярэднюю бляшку направа або налева і скамандаваў:

— *Откройте!*

Сярэднюю бляшку перавярнулі—яна чыстая.

— *Да нет! С этой стороны!*— сьмяецца жулік, адкрываючы бляшку з лялькай з правага або з левага боку: ён добра ведае, на які бок яе перасунуў шпаркім рухам рук, пакуль іграўшыя дасталі з кішанёў грошы.

Банда яго супольнікаў, абкружыўшая столік, маўчыць.

А што гэта ўсё супольнікі — наіўны вясковы дзядзька і не падазравае, пакуль бляшка з лялькаю зусім не апарожніць яго кішанёў.

Калі ў дзядзькоў кішані ўжо апаражніліся, а новы дзядзька да століка падыйшоў паглядзець, што тут робіцца, дык раптам нехта з жулікаў - супольнікаў стаўляе 5 злотых, націснуўшы пальцам адну з бляшак, і заклікае толькі што падыйшоўшага дзядзьку:

— Стаўляйце на гэту, разам са мной! Я бачыў...

— Не, я лепш пачакаю,—спакойна адказвае дзядзька, хоць жулік-супольнік многазначна міргае вачыма.

Гэтым разам ніхто „ня свой" нічога не паставіў і жулік у жуліка ўрачыста выігрывае 5 злотых, адкрываючы бляшку... з лялькай.

Гэткі спрыт заахвочвае да гульні новыя ахвяры, а жулікі паміж сабою заўсёды паладзяць: на старану, не свайму чалавеку іхняя лялька з бляшкаю не праграе ніводнае монэты!

Як толькі недалёка дзе пакажацца паліцыянт, дык уся банда ашуканцаў, з сваім расейскім *пар-нем* разам, разыходзіцца—складаны столік лёгка ўзяты сіплівым фраерам пад паху, а двузалатоўкі наіўных дзядзькоў радасна звоняць на дне яго кішанёў.

Пабароць гэтае ліха паліцэйскімі мерамі хіба што зусім немагчыма, пакуль ёсьць рынак, а на ім мусяць зьбірацца наіўныя вясковыя дзядзькі і цёткі. Верны спосаб ня даць ашукаць сябе — гэта ўсім і кожнаму ўстрымацца ад гульні ў „Тры бляшкі".

Па горадзе апошнім часам пашыраецца гэтак званы „Ланцуг шчасьця" або „Ланцуг Club National de Prosperite". На вёску можа гэты ланцуг, дасьць Бог, не перацягнецца.

Тут ашуканскі спрыт пабівае ўсе рэкорды розных „цукернікаў" і „трыбляшачнікаў".

Аб ашуканстве „ланцужнікаў" шчасьця падробна і „навукова" напісаў 21 гэтага верасьня „Kurjer Wileński", а яшчэ раней „Goniec Warszawski".

Пра „Ланцуг шчасьця" наўрад ці варта што болей казаць.

*Паупэр.*

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.